# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 12 (2206) 21 сакавіка 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.



Вучаніца музычнага ліцэя пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Аня ШЫБАЕВА, — лаўрэат Міжнароднага музычнага конкурсу імя Карла Саліва, які летась праходзіў у італьянскім горадзе Манферата. У прэстыжным конкурсе, дзе прымалі ўдзел трыста музыкантаў з усяго свету, прадстаўніца Беларусі стала абсалютнай пераможцай па класу фартэпіяна сярод юных выканаўцаў.

(Матэрыял пра Аню ШЫБАЕВУ змешчаны на 7-й старонцы).

## ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ АЭС: ПРАБЛЕМЫ ЗАСТАЮЦЦА

Турыстычнае бюро ў Кіеве арганізавала новы маршрут для аматараў незвычайнага. За 25 рублёў яны змогуць паехаць у закрытую зону Чарнобыльскай АЭС, пастаяць на пляцоўцы непадалёку ад саркафага, паглядзець з акна аўтобуса на мёртвы горад Прыпяць, пабываць ля могільніка заржанай радыяцыяй тэхнікі. Тое, што прынесла столькі гора і страт, становіцца крыніцай прыбытку для прадпрымальных людзей...

Мінулай восенню я пабываў —не на экскурсіі — у Навашэпеліцкім лесе, што кіламетраў за сем ад АЭС. Мне хацелася на свае вочы ўбачыць марфозы — выродлівасці ў раслінным свеце, аб якіх я шмат чуў ад радыебіёлагаў. Я іх убачыў: і сасновыя галінкі, што выраслі ўжо пасля аварыі,— перакручаныя, вузлаватыя, з шыпулькамі, якія некалькі разоў даўжэйшыя за звычайныя, і гіганцкае дэфармаванае лісце дуба. А потым, выбраўшыся з гэтага лесу, дзе і сёння ўзровень радыяцыі дасягае 50 мілірэнтген у гадзіну, пад'ехаў да АЭС. З аўтамабільнага моста цераз чыгуначнае палатно адкрывалася панарама з шматпавярховымі карпусамі. Дваццаць гадоў назад з гэтага ж месца я здымаў ажурныя канструкцыі маставых кранаў, гружаныя бетоннымі блокамі цягачы. Рыхтаваў тады рэпартаж аб будаўніцтве Чарнобыльскай АЭС. Пяць гадоў назад, 29 красавіка 1986 года, на трэці дзень пасля аварыі, я стаяў на гэтым жа пуцеправодзе і фатаграфаваў ваенныя верталёты, якія скідвалі мяшкі з пяском, глінай, даламітам у развал узарванага рэактара. Унізе па тэрыторыі станцыі паўзлі бронетранспарцёры, і ўсё гэта вельмі нагадвала карціну баявых дзеянняў.

І вось цяпер я зноў каля АЭС. Выглядала яна спакойна, як і павінна выглядаць любое нармальна працуючае прадпрыемства. Так, станцыя працуе. Штодзённа яна дае ў энергасістэму еўрапейскай часткі СССР, а таксама замежным спажыўцам больш за 50 мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі.

...Будаўніцтва Чарнобыльскай АЭС [illegible]алося ў 1971 годзе, а пр[illegible]эсць гадоў быў пушчаны ў эксплуатацыю першы энергаблок магутнасцю адзін мільён кілават. На працягу наступных шасці гадоў былі пабудаваны яшчэ тры такія ж [illegible]габлокі. Побач узводзіліс[illegible]ты і шосты, аб'яднаныя агульнымі камунікацыямі.

Катастрофа 26 красавіка 1986 года, што зрабіла Чарнобыльскую АЭС вядомай ва ўсім свеце, спыніла гэта будаўніцтва і, здавалася, паставіла на ім крыж.

Аварыя адбылася на чацвёртым, самым новым з дзеючых энергаблокаў. Выбухамі было разбурана памяшканне блока, а з рэактарнай шахты выкінута значная частка ядзернага паліва. Станцыя спынілася. Разбурэнні былі такія моцныя, а радыяцыйнае забруджванне такім магутным, што будучыня ўсёй АЭС здавалася тады вельмі праблематычнай. Аднак кіраўніцтва краіны палічыла, што песімістамі могуць быць асобныя людзі, але не дзяржава. Вялікія сілы, перш за ўсё воінскія, былі кінуты на дэзактывацыю тэрыторыі, на будаўніцва бетоннага ўкрыцця аварыйнага блока, рамонт і аднаўленне станцыі. Больш за шэсцьсот тысяч чалавек прынялі ўдзел у ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Надзвычай хутка, а можа быць, і неапраўдана хутка, АЭС вярнулася ў строй. Вядома ж, без чацвёртага блока, цалкам разбуранага. У першыя два гады на рэактарах, што засталіся цэлымі, быў праведзены комплекс работ, які значна павысіў іх ядзерную бяспеку.

У афіцыйных тлумачэннях аварыі яе галоўнай прычынай былі названы шматлікія памылкі, дапушчаныя персаналам пры правядзенні вельмі нескладанага эксперымента. І калі адбыўся суд, на лаве падсудных апынуліся кіраўнікі станцыі і дзяжурныя інжынеры, якія ўзначальвалі ў тую злашчасную ноч змену. Ім былі вызначаны даволі вялікія тэрміны турэмнага зняволення.

Аднак вельмі многія спецыялісты, асабліва незалежныя ад атамнага ведамства, лічылі і лічаць такое тлумачэнне прычыны аварыі няправамерным. Так, памылкі персаналам былі дапушчаны, прычым самыя грубыя. **Але, мяркуючы па дзеючых правілах ядзернай бяспекі, гэтыя памылкі маглі прывесці толькі да спынення рэактара, а зусім не да яго ўзрыву. А рэактар узарваўся.**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## НАШЫ ТРАДЫЦЫІ



**Сёлета зіма на Беларусі была «сапраўднай»: хапала снегу, трашчалі маразы, дзьмулі завірушныя вятры. Але час зімы скончыўся, і людзі па добрай народнай традыцыі праводзілі яе на спачын да наступнага года. Масленіца, ці провады зімы, — вясёлае свята, што заўсёды збірае і дзяцей, і дарослых. Фотакарэспандэнт А. ЦАРЛЮКЕВІЧ выхапіў момант народнага гуляння, якое адбывалася на вёсцы, у племзаводзе «Крынкі» Лёзненскага раёна. Былі тут тройкі з бубянцамі, хлопцы, спаборнічаючы з азартам, перацягвалі канат, вызначалі, хто з іх дужэйшы і спрытнейшы. Дзяўчаты спявалі народныя песні і частушкі. А якая ж масленіца без бліноў! Быў у «Крынках» і традыцыйны самавар, былі і бліны.**

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

## ШТО ПАКАЖА РЭФЕРЭНДУМ

У канцы лютага — пачатку сакавіка сектарам вывучэння і прагназіравання грамадскай думкі ЦК КПБ праведзена апытанне жыхароў рэспублікі аб маючым адбыцца рэферэндуме па Саюзнаму дагавору. У ім прынялі ўдзел каля трох тысяч чалавек (у іх ліку — рабочых — 48,6 працэнта, сялян — 11,2, ІТР і служачых — 21,1 працэнта, пенсіянераў — 9,8, студэнтаў і навучэнцаў — 3,3 працэнта).

Большасць жыхароў Беларусі выказаліся за адзіны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. 79,6 працэнта апытаных падтрымалі заключэнне новага Саюзнага дагавора. Яны лічаць, што дагавор дапаможа выйсці з крызіснага стану, спыніць спаўзанне грамадства на мяжу катастрофы, паставіць заслон перад грамадзянскай вайной, што наближаецца, адзначаюць, што ў адзіночку мы нікoлі не выберамся з галечы.

Амаль дзве трэція насельніцтва Беларусі жадаюць жыць у абноўленай федэрацыі савецкіх рэспублік, аб'яднаных новым Саюзным дагаворам. Каля чвэрці рэспандэнтаў лічаць, што будучыня за канфедэрацыяй, поўнай самастойнасцю рэспублік. Астатнія — за захаванне такой дзяржавы, якой яна была раней. Жыхарам рэспублікі было прапанавана пытанне: «Як вы ставіцеся да выхаду Беларусі з саставу СССР?» 80,8 працэнта адказалі — адмоўна, 6,4 працэнта — станоўча, 6,6 працэнта — яшчэ не рашылі, астатнія не змаглі адказаць. У некалькіх дзесятках анкет былі дапісаны заўвагі, сэнс якіх зводзіцца да таго, што час удзельных княстваў прайшоў, неабходна разбурацъ, а не ствараць межы.

І вось 17 сакавіка рэферэндум адбыўся. Ці будуць адпавядаць яго вынікі аптымістычным прагнозам, мы даведаемся праз некалькі дзён і паведамім пра гэта сваім чытачам.

РАШЭННЕ МІНГАРВЫКАНКОМА

## СТАТУС ПЛОШЧЫ

Выканком Мінскага гарсавета разгледзеў і адобрыў статус плошчы імя У. І. Леніна. Адзначана, што плошча з'яўляецца архітэктурным комплексам, які фарміруе культурную і гісторыка-архітэктурную зону, праз яе праходзіць складанейшая транспартная артэрыя горада. У сувязі з гэтым на плошчы імя У. І. Леніна забараняецца: праводзіць масавыя мерапрыемствы, не звязаныя з афіцыйнымі святамі, сходы, пікетаванні, галадоўкі, размяшчаць палаткі, стэнды, развешваць газеты, плакаты, займацца індывідуальнай камерцыйнай і гандлёвай дзейнасцю. За парушэнне данага статуса гараджане будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

МАЛЕНЬКАЯ ГАДАВІНА

## «ДОНКІХОТЫ XX СТАГОДДЗЯ»

Споўнілася тры гады Беларускаму дзіцячаму фонду, які аб'ядноў, паводле слоў яго старшыні Уладзіміра Ліпскага, «донкіхотаў XX стагоддзя», што сталі на абарону дзяцінства. 2,3 мільёна дзяцей Беларусі маюць у ёй патрэбу.

Няшчасцяў на нашых дзяцей звалілася столькі, што маці ледзь паспяваюць выціраць слёзы. Многія з малых паміраюць, не дажыўшы да года. Патрэбны велізарныя сродкі на медыцынскае абсталяванне, медыкаменты. А дзе іх узяць? У дзіцячага фонду няма пастаянных членаў, але скарбонка яго расце. Дзякуючы добрым людзям, толькі за мінулы год у Беларускае аддзяленне фонду паступіла звыш 4,5 мільёна добраахвотных ахвяраванняў. Паўмільёна зароблена прадпрыемствамі Дзіцячага фонду.

Многа людзей уключылася ў высакародную дзейнасць дапамогі хворым і бедным.

ДЗЕЛАВЫЯ СУСТРЭЧЫ

## БУДЗЕМ МЕЦЬ ТЭЛЕФОНЫ

Адбылася дзелавая сустрэча першага намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР М. Мясніковіча з прадстаўнікамі амерыканскай карпарацыі «Глабал-Ю.С.А. Кампьютэр Карпарэйшн» на чале са старшынёй праўлення карпарацыі Крысціянам Сангам, прэзідэнтам Бэртам Уокерам і выканаўчым віцэ-прэзідэнтам Кэры Мэсі.

Абмеркаваны планы стварэння ў рэспубліцы сумеснага беларуска-амерыканска-паўднёвакарэйскага прадпрыемства па вытворчасці тэлефонных апаратаў і іншага абсталявання электрасувязі.

Гэта работа будзе праходзіць у некалькі этапаў. Першы з іх — зборка і наладка канчатковай прадукцыі з пастаўляемых паўднёвакарэйскіх дэталей і вузлоў — пачнецца ў 1992 годзе.

ТРАГІЧНАЕ ЗДАРЭННЕ

## НЕ ВЫКЛЮЧАЕЦЦА ЗАБОЙСТВА

Гэтая вестка балюча ўспрынята ўсімі, хто захапляўся паэзіяй Анатоля Грачанікава, хто ведаў яго асабіста і нават, хто даведаўся аб ім з некралога. А ў некралогу напісана:

«На 53-м годзе нечакана і трагічна абарвалася жыццё галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць», вядомага беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, члена ЦК ЛКСМБ Анатоля Сямёнавіча Грачанікава».

У некралогу не прынята гаварыць пра абставіны смерці чалавека. А ў выпадку з паэтам Анатолем Грачанікавым яны трывожаць і насцярожваюць.

У ноч з 5 на 6 сакавіка ў Фрунзенскім раёне Мінска, каля тэнісных кортаў, з цяжкімі траўмамі быў знойдзены паэт. 7 сакавіка ён памёр у другой клінічнай бальніцы сталіцы. Па зразумелых прычынах намеснік пракурора Фрунзенскага раёна Ігар Навіцкі каменціраваць здарэнне адмовіўся. Па выяўленых фактах вядзецца праверка. Сярод іншых мае права на ўвагу версія аб забойстве.

*«Гарбачоўская палітыка рэформ перажывае крызіс. Гэта несумненна. Але ў кантэксце савецкай рэчаіснасці (а менавіта гэты кантэкст і ёсць адзіна важны) — палітыка гэта ў апошнія шэсць гадоў прынесла выдатныя дасягненні. З 1985 па 1989 год, гэта значыць у перыяд аднаго — калі гаварыць аб Злучаных Штатах — тэрміна прэзідэнцкага праўлення, Гарбачоў, насуперак упартай палітычнай апазіцыі, з якой ён сутыкаецца на кожным кроку, змог увасобіць у законы большасць сваіх радыкальных прапаноў, якімі сённяшняя савецкая сістэма фактычна была б заменена сістэмай рынкавай і дэмакратычнай. Ні адзін амерыканскі прэзідэнт, з такім жа паслужным спісам у галіне заканадаўства, не лічыўся б н... дачнікам. Яшчэ важней, што пры Гарбачове Расія бліжэй, чым калі-небудзь раней у сваёй гісторыі, падышла да дэмакратыі.*

*...Цяпер пытанняў больш, чым адказаў, адносна тых лёсаносных перамен, што адбываюцца ў Савецкім Саюзе. Сітуацыя куды больш складаная, чым можна ўявіць сабе, калі арыентавацца на частыя спасылкі на тое, як рэзка мяняюцца ў Амерыцы настроі адносна Савецкага Саюза. Тут няма нічога новага. Але калі «горбіманія», якой адзначаны былі васьмідзесятыя гады, была напросту неразумнай, то «горбіфабія» дзевяностых гадоў небяспечная. Як «воіны халоднай вайны», так і актывісты— прыхільнікі дэтанта імкнуцца, саперніочаючы паміж сабой, даваць парады і дапамагаць сваім любімым савецкім «дэмакратам», хаця ў нас і няма права ўмешвацца так непасрэдна ў справы гэтай краіны. Аўтары рэдакцыйных артыкулаў і выбраныя слугі народа патрабуюць таго, каб мы падтрымалі Ельцына як «адзіную альтэрнатыву Гарбачову», тады як сапраўдная дэспатычная альтэрнатыва насоўваецца на Маскву са сваіх баз у правінцыях. Стала модным у Злучаных Штатах заклікаць да паводльнага расколу Савецкага Саюза, але ніхто не выказвае ўслых занепакоенасці наконт таго, чым абернецца — калі не гаварыць аб бо іткійскіх рэспубліках — з'яўленне тузіна ці больш бедных дзяржаў: павелічэннем на планеце колькасці дэмакратычных дзяржаў ці дыктатур?»*

*(Сціівен КОЭН, прафесар-саветолаг Прынстанскага універсітэта, ЗША).*

САВЕЦКІ РЭКЕТ

## НА РЫНКАХ ВАРШАВЫ

Савецкія рэкецiры ўжо дабраліся і да Варшавы. У час кантрольнага рэйду па рынках Варшавы паліцыяй была раскрыта група рэкеціраў, што прыбыла ў польскую сталіцу следам за дробнымі савецкімі гандлярамі. Было ўстаноўлена, што некалькі дзесяткаў маладых людзей, прапісаных у Маскве, Ленінградзе, Мінску, Вільнюсе і Каўнасе, якія жывуць у асноўным у гасцініцы «Сакска», займаюцца «аховай суграмадзян, якія гандлююць на тутэйшых рынках».

«Апека», натуральна, забяспечваецца за адпаведную плату ў злотых ці доларах ЗША.

Акрамя «аховы суграмадзян ад палякаў», займаюцца перапродажам украдзеных рэчаў.

На допыце ў паліцыі адзін рэкецір з Мінска сказаў, што ў выпадку адмовы «несвядомыя элементы» страчваюць тавар і грошы. Акрамя таго, рэкеціры ахоўваюць савецкіх прастытутак у «Сакскай». Справа ў тым, што «дэсант» прастытутак з СССР наносіць сур'ёзны ўдар па інтарэсах іх польскіх калег. Апошнія патрабуюць за вечар у прыемнай кампаніі па сто долараў, а «птушачкі» з Саюза бяруць у два разы менш.

СУПРАЦЬ САЮЗА



**Напярэдадні рэферэндуму многія мінчане знайшлі ў сваіх паштовых скрынках лістоўку: Управа сойму БНФ «Адраджэнне» запрашала іх 16 сакавіка на плошчу Леніна, дзе перад Домам урада мелася адбыцца сустрэча з некаторымі дэпутатамі ад апазіцыі БНФ. І такая сустрэча адбылася. Галоўная тэма, што гучала ў выступленнях — усесаюзны рэферэндум. Дэпутаты заклікалі сказаць «НЕ» Гарбачову, які «цягне нас у абноўлены Саюз Сацыялістычных Рэспублік», галасаваць «за свабодную і незалежную Беларусь, за садружнасць суверэнных дзяржаў».**

**НА ЗДЫМКУ: лідэр апазіцыі Зянон ПАЗНЯК пераконвае масы ў згубнасці Саюза.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ Неафіцыйная статыстыка сведчыць, што ў Мінску на Камароўскім рынку гандлёвае месца каштуе 2 тысячы рублёў. Прыблізна такую суму «падатку» патрабуюць з тых, хто прыязджае з таварам з Каўказа ці рэспублік Сярэдняй Азіі, сталічныя рэкеціры.

◆ Магілёўская гарадская арганізацыя БНФ «Адраджэнне» афіцыйна зарэгістравана гарвыканкомам як самастойная палітычная структура. Яна атрымала дазвол на адкрыццё асабістага рахунка ў Камерцыйным банку.

◆ Каля 250 навучэнцаў Магілёўскага медыцынскага вучылішча прыйшлі да будынка абласнога камітэта Кампартыі Беларусі і правялі тут двухгадзінны несанкцыяніраваны мітынг. Моладзь патрабавала даць новы будынак вучылішчу.

◆ Татарскае культурнае аб'яднанне «Кітаб» у Гродне выдала каран на беларускай мове. Пакуль што гэта толькі выбраныя раздзелы. Хутка лабачыць свет і поўны тэкст свяшчэннай кнігі мусульман.

◆ На выбарах, якія нядаўна адбыліся ў Акадэміі навук БССР, членам-карэспандэнтам АН па спецыяльнасці радыёспектраскапія абраны вучоны і дзяржаўны дзеяч, першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Станіслаў Шушкевіч.

◆ Даярка І. з вёскі Стэцькаўшчына Дзятлаўскага раёна заявіла дырэктару мясцовай сярэдняй школы, што яе шасцёра дзяцей не будуць хадзіць на ўрокі: дзецям няма чаго абуць. Грошы ў жанчыны ёсць, але дзе купіць абутак?

◆ У саўгасе «Парахонскі» Пінскага раёна на адной з ферм нарадзілася пачварнае цяля — яно мела шэсць ног. Гэты факт звязваюць з радыяцыяй, таму што саўгас размешчаны ў забруджанай чарнобыльскімі радыенуклідамі зоне.

◆ У Беларусі жыве больш як 1 400 бежанцаў — 840 рускіх, 470 армян, 95 азербайджанцаў. Найбольшая колькасць асела ў Мінскай вобласці. А ўсяго па Саюзу такіх мігрантаў налічваецца каля 600 тысяч чалавек. Людзей сагнала з абжытых месцаў нацыянальная варажнеча.

МІЛАСЭРНАСЦЬ





**Больш за дзесяць дзён працавалі спецыялісты з Германіі ў Беларускім пратэзна-артапедычным цэнтры. Яны правялі тэарэтычныя заняткі з савецкімі калегамі і паказальнае пратэзаванне хворых з рознымі ўзроўнямі ампутацыі ніжніх канечнасцей. Практычная работа прадэманстравана на абсталяванні і матэрыялах, пастаўленых фірмай «ОТТО БОК» Беларускаму артапедычнаму цэнтру.**

**НА ЗДЫМКАХ: інжынер О. ФРУНЦЫНСКІ (злева) перадае вопыт работы інжынеру-пратэзісту Г. ПРАКУРАТУ; спецыялісты з Германіі зрабілі зручны пратэз Жэні КУКСІНАЙ з Рэчыцы.**

# 9-я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

9-я сустрэча беларусаў Аўстраліі адбылася сёлета ў горадзе Адэлаіда на праваслаўныя Каляды. 6 студзеня быў дзень прыезду гасцей і закватараванне. Нашы землякі і суродзічы прыбылі з гарадоў Перта, Сіднея і Мельбурна, нягледзячы на тое, што імі была пераадолена вялікая адлегласць ад 800 да 2 000 кіламетраў. У панядзелак 7.01.91 г. быў першы дзень Каляднага сьвята, госьці і мясцовыя беларусы з'ехаліся а 10-й гадзіне раніцы ў Беларускую Праваслаўную Сьвятыню, дзе літургію адправіў айцец Міхась Бурнос. Па богаслужэньні на царкоўным дзядзінцы госьці і гаспадары знаёміліся, гутарылі і віншавалі адзін аднаго з Калядамі і Новым годам.

А 4-й гадзіне па палудні ўсе сабраліся ў залі Капэрніка, цудоўна ўбранай. Тут гайдаліся сьцягі беларускі бел-чырвона-белы і аўстралійскі, а таксама герб Пагоня. Ад імя арганізацыйнага камітэту сустрэчы старшыня Беларускага аб'яднаньня спадар М. Колес прывітаў усіх удзельнікаў сьвята, пажадаў ім вясёлага побыту і плённай працы ды папрасіў старшыню Выканаўчага камітэту федэральнай Рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі спадара А. Грушу афіцыйна адкрыць 9-ю сустрэчу. Спадар А. Груша прывітаў усіх прысутных ад імя ВКФР, усе прасьпявалі рэлігійны гімн «Магутны Божа», ён сказаў кароткую, але зьмястоўную прамову і папрасіў сакратара ВКФР спадара П. Гуза зачытаць прывітаньні, якія атрымалі мы з Бацькаўшчыны і другіх арганізацыяў. Спадар П. Гуз зачытаў прывітаньні ад згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», ад Беларускага таварыства «Радзіма» і ад Прэзыдэнта Беларускай цэнтральнай рады за мяжой, сустрэтыя гучнымі воплескамі. Далей спадар М. Лужынскі прачытаў рэферат аб Максіму Багдановічу, яго жыцьці, дзейнасці ў беларускай літаратуры. Па заканчэньню рэферата адбыўся канцэрт, дзе беларускі хор Адэлаіды прасьпяваў некалькі песень, потым выступіла трыо з Мельбурна, пару нумароў выканала сям'я К. Кандрусіка. Пасьля канцэрту быў наладжаны багаты і смачны абед з гарэлкай і півам на сталах, дзе прысутныя зноў віншавалі адзін аднаго, але ўжо з чаркай у руках і жадалі, каб цераз 2 гады зноў спаткацца на 10-й сустрэчы ў Мельбурне. Каля восьмай гадзіны вечара заграў аркестр, і прысутныя ў залі (хто мог) пайшлі ў танцы. Так бавіліся да першай гадзіны ночы. 8-га студзеня адбыўся пікнік у Банайтэн Парку. Гэта прыгожае месца, да таго ж выдаўся цудоўны дзень, усё было цікава: размовы аб мінулым і сённяшнім дні, жарты, сьмех і народныя сьпевы. Засталося вельмі прыемнае ўражанне. 9-га студзеня быў дзень агляду працы Выканаўчага камітэту і Беларускіх арганізацыяў, а таксама развітальны пачастунак. А 9-й гадзіне раніцы пачалося пасяджэнне беларускіх арганізацыяў. Кожная (а іх восем) зрабіла справаздачу аб сваёй дзейнасьці і працы на працягу 2-х гадоў. Потым заслухалі старшыню ВКФР спадара А. Грушу, дзе было асобна адзначана, што многа турбот прынесла чарнобыльская катастрофа па збору грошай на дапамогу. Але дзякуючы ахвярнасьці беларусаў на гэту мэту сабрана 26 000 долараў. У хуткім часе будуць закуплены рэчы, неабходныя для лячэння людзей, і перасланы па назначэньню. Далей прыступілі да выбараў новага ВКФР, але так як ВКФР пагадзіўся працаваць добраахвотна і надалей, то новы камітэт застаўся ў старым складзе. Старшыня спадар А. Груша, сакратар П. Гуз, скарбнік У. Сідлярэвіч. На пасяджэньні была выпрацавана рэзалюцыя і прынята на развітальным пачастунку.

Мы, удзельнікі 9-й Сустрэчы беларусаў Аўстраліі, гаворыцца ў ёй, з'ехаўшыся з усёй Аўстраліі, заслухаўшы прывітаньні ад грамадскіх і духоўных арганізацыяў, пастанавілі:

**1. Рабіць захады, каб аўстралійскія дзяржаўныя і прыватныя сектары аказалі гуманітарную дапамогу пацярпеўшым ад чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі. Імкнуцца адраджаць нацыянальную культуру, хрысціянскую мараль і агульначалавечыя вартасьці.**

**2. Падтрымліваць і далей дзейнасьць Беларускага народнага фронта «Адраджэньне», скіраваную на ратаваньне беларускаг нацыі.**

**3. Зьвярнуцца осьбай ад імя беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, каб былі прыняты квоты імігрантаў з ліку жыхароў найбольш заражоных мясцовасьцяў чарнобыльскай зоны Беларусі.**

**4. Спрыяць п эньню дыпламатычных сувязяў Аўстраліі з Беларускай рэспублікай, Вярхоўны Савет якое абвясьціў 27-га лістапада 1990 года Беларусь суверэннай дзяржавай.**

**5. Мы падтрымліваем ініцыятыву аргкамітэту «Бацькаўшчына» ў Менску дзеля аб'яднання ўсяго беларускага народа, палітычнага і эканамічнага суверэнітэту Беларусі.**

**6. Мы вітаем намаганьні беларускага грамадства, скіраваныя на рэалізацыю Закону аб дзяржаўнасці беларускае мовы, які ўвайшоў у сілу 1-га верасня 1990 года.**

**7. Мы выказваем непакой з прычыны нарастаньня антыбеларускай акцыі на Беласточчыне, якая выяўляецца ў хлуслівай прэсавай кампаніі, ды ў паленьні цэркваў і нішчанні помнікаў беларускай культуры.**

Пацьвярджаючы ўсё вышэйсказанае, удзельнікі 9-й Сустрэчы беларусаў Аўстраліі разам з беларусамі ва ўсім вольным сьвеце заяўляюць, што галоўнай нашай мэтай ёсьць дасягненьне свабоды і незалежнасці Беларусі.

Пасьля пасяджэньня адбыўся развітальны пачастунак у Беларускай залі, дзе зноў весяліліся, гулялі, сьпявалі. Гаспадары дзякавалі гасьцям за іх прыезд і жадалі здароўя і шчаслівага падарожжа, а госьці дзякавалі гаспадарам сустрэчы за гасціннасць ды жадалі шчасьця, здароўя да наступнай сустрэчы. На афіцыйным зачыненьні 9-й Сустрэчы прысутныя ў залі прасьпявалі беларускі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**АД РЭДАКЦЫІ:**

Справаздачу аб 9-й Сустрэчы беларусаў Аўстраліі ў «Голас Радзімы» даслаў наш суайчыннік Янка РОЛСАН.

## НАВІНЫ СТАЛІЦЫ







**У Мінску ў Рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў прайшоў фестываль, арганізаваны членамі Міжнароднага таварыства Ведзіцкай культуры і лігай Духоўных братоў. Падобнае прадстаўленне ў нашай краіне арганізавана ўпершыню. У рамках гэтага фестывалю праводзіліся сустрэчы з духоўнымі лідэрамі СССР, Індыі, ЗША.**

**Праграму вёў прэзідэнт Міжнароднага Таварыства Ведзіцкай культуры дырэктар вышэйшай тэалагічнай акадэміі Шалаграма Дас. Асобую цікавасць у час лекцый аб старажытным вучэнні Усхода гледачы праявілі да метадаў аховы ад бачных і нябачных с есприяльных для чалавека з'яў і да кал ўнай медытацыі.**

**Прадстаўленне суправаджалася выступленнямі груп духоўнага танца, выкананнем гімнаў і мантр. Сваё мастацтва прадэманстравалі спартсмены школы воінскіх мастацтваў. Вялікім попытам карысталася і ведзіцкая літаратура, а таксама кнігі аб сакрэтах усходн едыцыны і вегетарыянскай кухні.**

**НА ЗДЫМКУ: выступленне танцоўшчыцы ленінградскай групы «Гауранга» Таццяны ЯЦЭНКА; сваё майстэрства дэманструюць спартсмены школы воінскіх мастацтваў; перад слухачамі выступіў духоўны настаўнік вучэння Крышны з Індыі ДАДА.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

# У ДАЛЁКІМ ЯКУЦКУ

Іх суполка, якую яны назвалі «Суродзіч», узнікла мінулагоднім летам у гэтым вядомым горадзе, што размясціўся на берагах паўнаводнай Лены. Сувязі ж з «Голасам Радзімы», маю на ўвазе абмен карэспандэнцыяй, усталяваліся праз некалькі месяцаў пасля афіцыйнай рэгістрацыі яшчэ аднаго беларускага таварыства, створанага па-за межамі бацькаўшчыны. І вось нядаўна ў рэдакцыю завітаў Алесь Баркоўскі, старшыня «Суродзіча», балазе свой адпачынак праводзіў у сталіцы Беларусі.

Дык што сабой уяўляе тая суполка якуцкіх беларусаў? Яна невялічкая, налічвае разам з пасіўнай часткай 15 чалавек, актыўны ж удзел у дзейнасці бярэ добрая палова з іх. Ёсць для яе і адпаведныя ўмовы: афіцыйныя ўлады выдзелілі памяшканне пад «штаб-кватэру» арганізацыі. І знаходзіцца яно ў самым людным і атракцыйным месцы горада, у Палацы культуры і тэхнікі. Але ж, на вялікі жаль, пад «штандары» суполкі стала пакуль што нямнога беларусаў.

— А, можа, нашых суайчыннікаў наогул мала ў горадзе?

— Не, — запярэчыў Алесь, — лічыцца, што ў Якуціі жыве каля чатырох тысяч чалавек беларускай нацыянальнасці. Напрыклад, насельнікамі пасёлка Чэрскі, прыгарада Якуцка, з'яўляюцца пераважна людзі беларускага паходжання. Там жа, па чутках, даўно ці нядаўна існавала таварыства «Віцяблянка». Аднак адшукаць яго сляды дагэтуль не выпала. А ўвогуле кажучы, роля нашых суайчыннікаў у асваенні якуцкага краю, у ягоным развіцці, велізарная. І вельмі мала даследавана, вывучана.

Цяжка было мне не пагадзіцца з Алесем Баркоўскім, што тэма беларускасці ў Сібіры — «неўзаранае» поле для даследчыкаў, навукоўцаў, літаратараў. І колькі цікавага і невядомага яно хавае! (Але да гэтае пары акрамя майго субяседніка ды пісьменніка Івана Ласкова, які таксама жыве ў Якуцку, мала хто наведваўся ў архівы горада). І, як доказ, паказаў мне Алесь свой пераклад на рускую мову, надрукаваны ў мясцовай газеце. «Збор твораў Адама Каменскага» — першая крыніца аб Сібіры, напісаная на польскай мове, аўтарам якой з'яўляецца беларус.

— Хоць колькасцю мы пахваліцца не можам, але імкнёмся абудзіць роднае слова і культуру сярод сібірскіх таежных абсягаў. Ладзім сваімі сіламі мастацкую самадзейнасць, спяваем нашы песні, расказваем вершы. Адзначалі ў мінулым годзе і Скарынінскія святы. Вядзём перапіску з замежнымі суайчыннікамі. Асабіста я гасцяваў у Скарынінскай бібліятэцы ў Лондане, быў на Беласточчыне. Так што нашы дзелавыя кантакты выглядаюць трывалымі. (З тых і іншых паездак прывёз кіраўнік беларускага таварыства ў Якуцку шмат матэрыялаў аб гісторыі, культуры беларускай эміграцыі ў розных краінах свету. Прывёз і перадаў бібліятэкам Мінска).

І дадаў Алесь, што спадзяецца на самыя лепшыя вынікі ў рабоце «Суродзіча». Тым больш, што да гэтага абавязвае і той рух да нацыянальнага адраджэння, які разгарнуўся на берагах Лены. У гэтым сэнсе магутным выглядае ўкраінскае грамадска-культурнае зямляцтва імя Тараса Шаўчэнкі. А ёсць яшчэ і чэчэна-інгушская абшчына, і савецка-карэйская асацыяцыя, і асацыяцыя народаў Поўначы... Дарэчы, хутка маецца выйсці газета на ўкраінскай мове, дзе адводзіцца месца і беларускай старонцы. Такім чынам, спадзяванні, відаць, абгрунтаваныя.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

Іван САВЕРЧАНКА

# КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА



— 41 —

Пахаваў Леў Сапега Дароту Фірлiёўну ў Вільні ў касцёле св. Міхаіла, які ён пабудаваў за два гады перад тым на свае сродкі.

XV

Смерць жонкі, самага блізкага чалавека, падкасіла канцлера. Жыццё здавалася абыякавым, усё валілася з рук. «Цяжкое гора і нязносная бяда цяпер у мяне,— пісаў ён да Кацярыны Танчынскай.— Жонка мая а шостай гадзіне ночы з чацвярга на пятніцу аддала сваю душу ў рукі Пана-Бога, разлучылася з гэтым светам і са мною, пакінуўшы асірацелых дзетак і мяне ў вялікай роспачы...»

Але ішоў час. Цяжкі боль страты каханай жонкі пакрысе адпускаў. Плойма дзяржаўных справаў, што чакалі неадкладнага вырашэння, прымушала забывацца на ўласнае гора.

Дзмітрый Халецкі, велікакняжацкі падскарбій, ужо неаднаразова звяртаўся да Сапегі з просьбаю пачаць наводзіць парадак у фінансах; трэба было вяртаць у каралеўскую скарбонку грошы, узятыя некалі мяшчанамі Магілёва, на пільнай выплаце якіх цяпер настойваў сам Жыгімонт III.

Апроч праблемаў з фінансамі, у Вялікім Княстве наспяваў канфлікт на рэлігійнай глебе: пратэстанты патрабавалі ад уладаў гаспадарства выканання Акта Канфедэрацыі 1573 года, што гбараняў іх канфесійныя правы, пагражаючы, у адваротным выпадку, грамадскай непадпарадкаванасцю і вайною. Каб сцішыць пратэстантаў, Леў Сапега прымае неадкладныя меры па вырашэнні канкрэтных пытанняў, што іх хвалявалі, а 13 снежня 1591 года накіроўвае ім на радомскі з'езд ліст (апроч Сапегі яго падпісалі Крыштоф Зяновіч, брэсцкі ваявода, Альбрэхт

— 42 —

Радзівіл, маршалак Княства, ды Гаўрыла Война, падканцлер), просячы супакоіцца, не распальваць узаемнай нянавісці ды не парушаць спакою ў Княстве. Канцлер абяцаў пратэстантам абараніць усе іх «правы і вальнасці», што па нейкіх прычынах дагэтуль парушаліся. Аднак зусім пазбегнуць беспарадкаў у гаспадарстве не ўдалося. Выступленні пратэстантаў пракаціліся па ўсёй Рэчы Паспалітай.

XVI

Небяспека ўнутраных канфліктаў павялічвалася з-за адсутнасці караля і вялікага князя Жыгімонта III, які пасля смерці ў лістападзе 1592 года яго бацькі, шведскага караля Іаана, з дазволу Сойма (май 1593 года) ад'ехаў у Швецыю, дзе пачаў дабівацца дзедзічнага прастола. (У адрозненне ад рэчпаспалітай выбарнай, шведская карона з'яўлялася спадчыннай і па тых часах лічылася больш ганаровай).

У сваю паездку ў Швецыю Жыгімонт III запрасіў таксама і канцлера Вялікага Княства. Аднак Леў Сапега, спаслаўшыся на хваробу, адмовіўся. Трывожныя часы і безліч гаспадарскіх справаў аніяк не спрыялі таму, каб адпраўляцца ў адносна бясклапотнае падарожжа сярод знатнай каралеўскай світы. Пераадольваючы неймаверныя цяжкасці, Сапега ў гэты час шмат сілаў аддае ўрэгуляванню канфліктаў паміж шляхтай, бесперапынна вядзе перамовы з пратэстантамі, сустракаецца з лідэрам беларускіх евангелікаў — Андрэем Воланам, забяспечвае ахову паўднёвых рубяжоў, пачынае працу над упарадкаваннем галоўнага архіва Княства, так званай Метрыкі, вырашае надзвычай адказнае пытанне аб удзеле Вялікага Княства ў антытурэцкай кааліцыі хрысціянскіх дзяржаваў (па-

— 43 —

між Портай і Рэччу Паспалітай існаваў на той момант мірны дагавор), якая стваралася ў сярэдзіне 90-х гадоў XVI стагоддзя пад эгідаю папы рымскага Клімента XIII.

Праз нейкі час са Швецыі да канцлера прыйшлі сумныя весткі аб перанясе каранацыі Жыгімонта III на больш позні час, на 15 студзеня 1594 года. Прычына таму — адмоўнае стаўленне тамтэйшага дваранства да караля-католіка. Але не гэта насцярожыла Льва Сапегу. На шведскую карону нечакана прад'явіў свае прэтэнзіі Карл, дзядзька Жыгімонта Вазы. Узнікла рэальная пагроза вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй, што ствярала вялікую небяспеку для Княства, бо тут у 1594 годзе пачалася новая хваля выступленняў сялянскай беднаты.

XVII

Найбольшыя клопаты канцлеру прынеслі казацкія атрады Лабады і Налівайкі, што бязлітасна рабавалі маёнткі беларускае ды украінскае шляхты, выпальвалі датла вёскі, руйнавалі гарады, не шкадуючы, секлі малых і старых, нясілавалі жонак і дзяўчат.

Аб варварскай жорсткасці «налівайкаўцаў», якія справілі свой дзікі шабаш у Магілёве, аўтар старажытнай Баркулабаўскай хронікі пісаў так: «Место славное Могилев, место побожное, домы, крамы, острог выжгли, домов всех яко 500, а крамов з великими скарбами 400... Мещан, бояр, людей учтивых, так мужей, яко и жен, детей малых побили, порубили, попоганили. Скарбов теж незличоных побрали с крамов и с домов...»

Леў Сапега ды Крыштоф Радзівіл арганізавалі супраціўленне казацкім атрадам. Пад кама-

— 44 —

ндаваннем Мікалая Буйвіда ды славутага крычаўскага старасты Багдана Саламярэцкага беларускія жаўнеры спаўна расквіталіся з «бунтаўнікамі» на Буйніцкім полі, што ля Магілёва, дзе тыя ўчынілі свае нялюдскія справы. Галоўны злачынца — Севярын Налівайка — быў злоўлены і закатаваны.

Леў Сапега і надалей заўсёды заставаўся прыхільнікам моцнай прававой дзяржавы. Аб гэтым яскрава сведчыць, напрыклад, тое, што ён, [illegible]тупаючы на варшаўскім Сойме 1607 года, [illegible]зіў шляхецкі рокаш, на чале якога стаялі Януш Радзівіл ды пан Зэбжыдоўскі. У сваёй прамове канцлер, у прыватнасці, падкрэсліваў, што ні закон, ні гісторыя не даюць нікому падставы дамагацца нечага ад уладаў з дапамогаю сілы. Леў Сапега таксама ўчыніў жорсткую расправу над завадатарамі паўстання гара[illegible] у Магілёве (1606—1610), старастам які [illegible] з'яўляўся.

Да парушальнікаў закону, кім бы яны ні былі, канцлер Вялікага Княства ніколі не ведаў літасці ды спагады.

XVIII

Апынуўшыся на вяршыні ўлады, Леў Сапега ў многім вызначаў характар дзяржаўнае палітыкі ў адносінах да царквы і рэлігійна-духоўнага жыцця насельнікаў Княства. Ад яго залежала дасягненне згоды між рознымі канфесіямі, што на той час было зусім не лёгкай справаю, бо на Беларусі ў XVI стагоддзі, як ні ў адной іншай еўрапейскай краіне, адначасна існавалі каталіцкая, праваслаўная, пратэстанцкая, мусульманская ды іудзейская цэрквы, а таксама розныя евангелічныя суполкі і секты. Кож-

— 45 —

ная з іх мела свае гістарычныя карані і адметную арыентацыю на пэўны тып культуры і філасофіі. Дасягнуць царкоўнае талеранцыі пры такім канглямераце рэлігійных плыняў можна было толькі праз нейкую звышпламатыю ды вышэйшую ступень дасканаласці заканадаўства, якое рэгулявала дзейнасць цэркваў.

Падчас канцлерства Льва Сапегі, у 90-я гады XVI стагоддзя, на Беларусі, да ўсяго іншага, на практыцы пачала здзяйсняцца ідэя вуніі між праваслаўнаю і каталіцкаю цэрквамі, у выніку [illegible] адбылося не зліццё дзвюх блізкіх хрыс[illegible]скіх плыняў у адну, а ўзнік новы рэлігійны кірунак, што яшчэ больш ускладніла палітычныя варункі ў гаспадарстве.

Думку аб царкоўным пагадненні ў Вялікім Княстве ўпершыню выказаў рэктар львоўскай ш[illegible]лы Бенедыкт Гербест у творы «Прыстойны [illegible]ціянскі адказ» (1567). Роўна праз дзесяць год яе яшчэ больш моцна паўтарыў Пётра Скарга ў сваім праграмным трактаце «Аб адзінстве царквы боскай пад адзіным пастырам» (1577). Аднак першыя практычныя крокі па падрыхтоўцы вуніі зрабілі, як гэта ні парадаксальна, беларускія ды ўкраінскія праваслаўныя епіскапы — Гедэон Балабан, Дзіанісій Збіруйскі, Апанас Пельчыцкі ды Кірыла Тэрлецкі, якія, па вясне 1590 года патаемна сустрэўшыся ў Белзе, абгаварылі канкрэтныя пытанні яе ажыццяўлення. Больш як пяць гадоў пасля гэтай сустрэчы яны рыхтаваліся да рашучага кроку: гуртавалі сілы, інтэнсіўна перапісваліся з каралём, папам рымскім ды ўплывовымі магнатамі Княства, шукаючы іх падтрымкі.

Што ж падштурхнула вышэйшых праваслаўных іерархаў Вялікага Княства да пошуку шля-

— 46 —

хоў паяднання з каталіцкаю царквою і чаго яны дабіваліся?

Як сведчаць тагачасныя гістарычныя крыніцы, яны такім шляхам імкнуліся захаваць свае правы і ранейшы ўплыў на духоўнае жыццё насельнікаў Вялікага Княства перад наступам моцнага рэфармацыйнага руху, які ўсё больш аслабляў праваслаўную царкву. У сваёй барацьбе з рэфармацыяй яны не маглі абаперціся на грэчаскіх патрыярхаў, бо тыя самі з падзеннем Канстанцінопаля трапілі ў залежнасць ад турэцкіх султанаў. Звяртацца за дапамогай у Маскву, як тое прапанаваў Канстанцін Астрожскі, ніхто з іх не рызыкнуў. Больш чакаць дапамогі не было адкуль. Праваслаўная царква Вялікага Княства апынулася ледзь не на мяжы знікнення.

Каб умацніць сваю ўладу, праваслаўныя іерархі і прынялі рашэнне адмовіцца ад падпарадкавання Канстанцінопалю, прызнаўшы першынство папы рымскага. Свае мэты, прычым абсалютна ясна, яны выклалі ў праграмным дакуменце — Грамаце ад другога снежня 1594 года, дзе, у прыватнасці, гаварылася: «А наболей—теперешних нешчасливых часов, в которых не мало росмаитых ересей межи людьми намножилося. Отступаючи от православное веры хрестиянское, закону нашого отбегають и церкви Божое, и правдивое хвалы Бога в Тройцы единого отметаются».

Папа рымскі Клімент VIII вітаў выступленне іерархаў велікакняжацкай праваслаўнай царквы супроць агульнага ворага—рэфармацыйнага руху і з радасцю ўспрыняў іх жаданне прызнаць над сабою яго ўладу.

Кароль Жыгімонт III, адданы католік, такса-

— 47 —

ма падтрымаў ідэю вуніі і паабяцаў яе ініцыятарам усялякую дапамогу, гарантуючы ў будучыні дапамагчы ім заняць сенатарскія крэслы.

Як жа паставіліся ўлады Вялікага Княства і, у прыватнасці, канцлер Леў Сапега да рашэння праваслаўных іерархаў? Як вядома з гістарычных дакументаў, Сапегу інфармавалі аб падрыхтоўцы да вуніі ды яе мэтах, і ён прыхільна аднёсся да гэтага факта.

Чаму ж канцлер падтрымаў ідэю стварэння вуніяцкай царквы? Найперш, ён разлічваў такім чынам спыніць бесперапынныя канфлікты паміж праваслаўнымі ды католікамі. Але не гэта галоўнае.

Прыкладна ля 1594 года адбылася істотная карэкціроўка мэтаў і сутнасці дзейнасці прыхільнікаў вуніі. Побач з барацьбой супроць рэфармацыйнага руху многія беларускія свецкія ды царкоўныя дзеячы, як, напрыклад, Іпаці Пацей, звязвалі з вуніяй стварэнне нацыянальнага касцёла беларусаў. Менавіта з гэтага моманту пачынаецца новы этап рэалізацыі вуніяцкай ідэі, чаго не бачылі ці, напэўна, тэндэнцыйна не жадалі бачыць праваслаўныя ды каталіцкія даследчыкі вуніяцкай царквы. Але якраз гэты бок у справе вуніі вельмі хутка заўважыў канцлер Вялікага Княства Леў Сапега. Прынамсі, з 1595 года ён пачынае надзвычай актыўнымі дзеяннямі спрыяць ажыццяўленню вуніяцкай ідэі.

Існавала і яшчэ адна прычына, якая прымушала канцлера і іншых прыхільнікаў вуніі спяшацца. У 1589 годзе было заснавана маскоўскае патрыяршаства, якое неўзабаве аб'явіла сваёй мэтаю — аб'яднанне пад уладаю Масквы ўсіх праваслаўных, у тым ліку і беларусаў,

— 48 —

адпаведна з канцэпцыяй: «Масква—трэці Рым, а чацвёртаму не бываць». Шматвопытны Леў Сапега выдатна разумеў, да чаго на практыцы прывядуць гэтыя дэкларацыі маскоўскіх патрыярхаў. А яны сведчылі якраз пра тое, што даўнія прэтэнзіі Масквы на землі Беларусі набываюць абрысы палітычнай праграмы. Усё праваслаўнае абвяшчалася рускім, а землі Беларусі з гэтага моманту станавіліся нібыта «спрадвеку рускімі». (У XIX стагоддзі, адпаведна з той жа логікай, яны атрымалі статус «заходне-рускага краю»).

Менавіта ў такіх умовах Леў Сапега, імкнучыся, як заўсёды, засцерагчы інтарэсы Вялікага Княства, захаваць рэлігійна-культурную незалежнасць гаспадарства, абараніць беларускі народ, прадстаўніком якога ён бясспрэчна лічыў і сябе, ад русіфікацыі і паланізацыі, зрабіў стаўку на вуніяцкую царкву, што, прызнаўшы першынство папы рымскага, пазбаўлялася такім чынам ад дамаганняў маскоўскіх патрыярхаў, але захаваўшы ўсходнія абрады (многія з якіх, дарэчы, істотна адрозніваліся ад існуючых у Маскоўскай Русі*), не злівалася з каталіцкаю царквою, застаючыся дастаткова моцнай і, галоўнае, незалежнай, наколькі гэта тады было магчыма.

* Тых, хто зацікавіцца адрозненнямі ў абрадах праваслаўных цэркваў XVI стагоддзя Вялікага Княства і Маскоўскай Русі, адсылаю да спецыяльнага даследавання: Архангельский А. С. Борьба с католичеством и западно-русская литература конца XVI—первой половины XVII в. ЧОИДР. М., 1888. С. 78—82.

Працяг. Пачатак у №№ 7—11.

*АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ*

# ШТО АДБЫВАЕЦЦА З НАШЫМ ТЭАТРАМ?

Рэспубліканская газета «Советская Белоруссия» (№ 38, 22 лютага) змясціла вялікае і грунтоўнае інтэрв'ю журналіста З. Прыгодзіча са старшынёй Саюза тэатральных дзеячаў рэспублікі народным артыстам СССР Мікалаем Яроменкам. У ім — спроба разабрацца ў складаных працэсах, што адбываюцца ў беларускай культуры. Аўтар гутаркі канцэнтруе сваю ўвагу на праблемах беларускага тэатра. «Што адбываецца з нашым тэатрам? Мы ж добра памятаем, якую вялікую грамадскую цікавасць выклікала тэатральнае мастацтва ў так званыя застойныя часы. Чаму ж сёння, у пару публічнасці і дэмакратыі, тэатр маўчыць?» — задае ён пытанне, што хвалюе не толькі журналістаў, але і звычайнага гледача.

З тэатрам сапраўды адбываецца нешта дзіўнае і трывожнае, канстатуе М. Яроменка. Здавалася б, вось яна, доўгачаканая і жаданая свабода... Тэатру дадзена практычна поўная самастойнасць — у выбары рэпертуару, у фарміраванні трупы, у рашэнні фінансавых пытанняў, мастацкіх адкрыццяў,.. але неардынарных работ, якія б выклікалі ўсеагульную ўвагу, няма. Адсюль і падзенне цікавасці да тэатра, устойлівая тэндэнцыя да спаду колькасці наведвальнікаў.

Пачаўшы з канстатацыі гэтага сумнага факта, Мікалай Яроменка, між тым, заўважае, што такая сітуацыя склалася не толькі ў нас у рэспубліцы, але і ва ўсёй краіне.

У чым усё ж такі прычыны такога трывожнага становішча? На думку М. Яроменкі, праблемы тэатра існуюць не самі па сабе, бо тэатр не ізаляваны ад грамадска-палітычнага жыцця ў краіне, а яно цяпер надзвычай складанае, супярэчлівае, драматычнае.

Мікалай Яроменка, сам акцёр, які добра ведае і прафесійныя праблемы, спрабуе прааналізаваць парадаксальную сітуацыю. На яго думку, тут існуе некалькі момантаў. Па-першае, гэта адсутнасць добрай драматургіі, сучасных і востраактуальных п'ес. Перыяд асэнсавання ўрокаў гісторыі надта ўжо зацягнуўся. А жыццё не стаіць на месцы, яно патрабуе руху ўперад. «З чым жа мы туды пойдзем -з праўдай пра мінулае, але без веры ў будучыню?»

Але ж справа не толькі ў адсутнасці добрага драматургічнага матэрыялу, а і ў крызісе рэжысуры. Напрыклад, з больш чым пяцідзесяці прэм'ер мінулага года толькі 2—3 спектаклі варта лічыць удалымі, яшчэ 4—5 неблагімі, а астатнія... У іх якраз ярка праявіўся гэты крызіс рэжысуры — адсутнасць свежых тэатральных ідэй, нізкая культура, прафесійная бездапаможнасць.

Адсутнасць сапраўднай драматургіі, крызісны стан рэжысуры не маглі ў сваю чаргу, лічыць М. Яроменка, не аказаць уплыву на лёс акцёраў. Многія таленавітыя выканаўцы гадамі не выходзяць на сцэну, практычна пазбаўлены магчымасці займацца сваёй прафесійнай справай, удасканальваць сваё майстэрства. У доказ гэтага факта М. Яроменка называе сярод іншых імя такога вядомага артыста, як Генадзь Гарбук, які даволі доўгі час не меў роляў у спектаклях купалаўцаў.

«Увесь парадокс цяперашняй сітуацыі заключаецца ў тым, што тая дэмакратызацыя мастацкага жыцця, за якую мы так горача змагаліся, стала для нас сапраўднай дэмакратурай, а прасцей кажучы — дыктатам рэжысуры, а свабода творчасці — свабодай несумленнасці, — працягвае разважанні М. Яроменка. — Па гэтай прычыне ў многіх тэатрах аказаліся разбуранымі элементарныя этычныя прынцыпы. Эстэтыка ж без этыкі — рэч немагчымая, хаця яна, зразумела, можа існаваць, але тады кіруюцца не мастацкімі крытэрыямі, а групавымі, кланавымі інтарэсамі, і такая эстэтыка становіцца ўжо грамадска небяспечнай».

Негатыўныя, трывожныя працэсы ў тэатральным мастацтве, на думку М. Яроменкі, узмацняюцца яшчэ і некрытычным стаўленнем многіх рэжысёраў і цэлых творчых калектываў да крытычных заўваг мастацтвазнаўцаў і выступленняў прэсы. У атмасферы самаўсхвалення, самазамілавання чахне ўсё жывое, таленавітае.

Даволі цікавая заўвага М. Яроменкі, што тычыцца пазіцыі Міністэрства культуры ў адносінах да падзей у тэатры. Так, ён лічыць, што некаторыя супрацоўнікі міністэрства адышлі ад спраў і проста назіраюць за гэтай чахардой: маўляў, дабіваліся абсалютнай свабоды, ну дык і спажывайце яе цяпер поўнай мерай. Няма цяпер на каго скардзіцца, мы ў вашы справы не ўмешваемся. Абгрунтоўваючы свае развагі, М. Яроменка тлумачыць, што артысты, як і іншыя прадстаўнікі мастацтва, пратэставалі ў свой час не супраць кіраўніцтва ўвогуле, а толькі супраць грубога, адміністрацыйна-каманднага ўмяшання ў тую сферу грамадскай дзейнасці, якая больш за ўсё патрабуе кампетэнтнасці, чуласці і ўвагі. Мастацтва ж заўсёды мела патрэбу ў добрым і мудрым заступніцтве, своеасаблівым мецэнацтве. А сёння тэатр аказаўся прадастаўленым самому сабе. Поўнасцю вольным ад дыктату ўладатрымальнікаў.

Чым жа абярнулася поўная свабода для творчай інтэлігенцыі? «Да дараванай волі мы аказаліся ні маральна, ні духоўна не падрыхтаванымі», — адказвае на пытанне журналіста М. Яроменка. І далей развівае сваю думку: «Тэатральныя калектывы па-ранейшаму раздзіраюць вострыя канфлікты, складаныя, цяжка вырашальныя праблемы. З пераходам да рыначных адносін гэтых праблем стновіцца ўсё больш і больш. І я не выключаю такой сітуацыі, калі значная частка нашага брата мож[illegible] ўвогуле аказацца без працы».

У інтэрв'ю, дадзеным газеце «Советская Белоруссия», гаварылася таксама, што аздараўленне абстаноўкі, яе кардынальная перабудова немагчымы без перспектыўнай канцэпцыі. І гэта падштурхнула Саюз тэатральных дзеячаў і Мі[illegible]рства культуры рэспублікі да рас[illegible]оўкі вельмі важнага дакумента — асноўных напрамкаў развіцця тэатральнай культуры ў Беларусі. У ім прадугледжаны меры па далейшай дэмакратызацыі кіраўніцкіх прынцыпаў, фарміраванне новых мадэлей сацыяльнага функцыяніравання тэатра, намечаны крокі па развіццю сеткі прафесійнага і іншых форм тэатра, па ўдасканаленню падрыхтоўкі маладых спецыялістаў, па павышэнню мастацкага ўзроўню спектакляў і прафесійнага выканаўчага майстэрства, пастаўлены іншыя творчыя, эканамічныя, сацыяльныя задачы.

Адной з цэнтральных праблем гэтай канцэпцыі з'яўляецца развіццё беларускага нацыянальнага тэатра. Праграма разлічана на некалькі этапаў. Тое-сёе з намечанага ўжо рэалізавана. Напрыклад, у Слоніме і Мазыры народныя тэатры пераўтвораны ў прафесійныя. Адкрыты фальклорны тэатр «Жалейка» (на базе мясцовай філармоніі) у Гомелі, Тэатр лялек у Маладзечне. Для стварэння рэпертуару на беларускай мове ў Гродзенскім і Брэсцкім абласных тэатрах лялек расшыраны акцёрскія трупы. Завяршаецца арганізацыя ў Мінску Тэатра беларускай драматургіі.

М. Яроменка лічыць таксама, што добрай падтрымкай пры рэалізацыі выпрацаваных асноўных напрамкаў развіцця тэатральнай культуры ў Беларусі павінен стаць нядаўна прыняты парламентам рэспублікі Закон аб культуры. Паступова мы разбуралі культуру, паступова давядзецца яе адраджаць. Таму, калі мы не бачым неадкладных вынікаў, не трэба думаць, што закон не працуе. Праблемы адраджэння маралі, духоўнасці, культуры, навукі раптоўна, загадам, валявым націскам вырашыць нельга. Тут існуе небяспека: усякае насілле над людзьмі, якія не могуць так хутка перастроіцца, можа выклікаць у іх толькі пачуццё пратэсту і прывядзе да зваротнага эфекту — затармозіць працэс адраджэння. Каб пазбегнуць гэтага, і ў нашай тэатральнай праграме, і ў Законе аб культуры вызначаны дакладныя, рэальна абгрунтаваныя тэрміны. Іх нельга фарсіраваць, паскараць. Тут павінна быць пачуццё меры, цярпенне, а намечаную праграму ажыццяўляць спакойна, без канфрантацыі, без экстрэмізму.



# ВЕЧАРЫНА Ў КОЛАСАВЫМ ДОМЕ

У свет Якуба Коласа яна ўвайшла аднойчы і назаўсёды. У горадзе Пінску абое рупіліся на ніве народнай адукацыі (ён — у 3-м прыходскім вучылішчы, яна — у чыгуначнай школе). І тут настаўніца Каменская ў 1913 годзе ўзяла сабе прозвішча Міцкевіч. Паплечніцай вялікага паэта, памочніцай і дарадцай яго ў паўсядзённым неспакоі Марыя Дзмітрыеўна была ўсё жыццё.

У яе памяць, з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння, была наладжана ў Коласавым доме вечарына. Усе прамоўцы адзначалі інтэлігентнасць, душэўнасць, чуласць паэтавай абранніцы. І не толькі ў дачыненні да мужа і сям'і, але і ў адносінах да знаёмых ці проста выпадковых сустрэчных. Усхваляванае слова пра незабыўную Марыю Дзмітрыеўну сказалі народны мастак СССР Заір Азгур [illegible] музею майстар падарыў скульптур[illegible]артрэт ае), «кватаранты» Коласавага дому — акадэмік АН БССР М. Міцкевіч і У. Мазур (першы ў сям'і народнага паэта жыў пяць гадоў, другі з бацькамі — восем, і бясплатна), мастак Я. Ціхановіч, былая Коласава суседка В. Сачок, аднакласнік малодшага сына песняра Л. Панкавец, старэйшы сын песняра Даніла Канстанцінавіч.

На вечарыне гучалі паэтычныя радкі, адрасаваныя Коласам сваёй жонцы. А ў канцы сустрэчы прысутным была запрапанавана песня «Мой родны кут» на словы з неўміручай паэмы «Новая зямля» ў выкананні Багдана Андрусішына (Данчыка).

**С. ІВАНЧЫК.**

**НА ЗДЫМКУ: пляменнік Я. Коласа С. Белы на вечарыне, прысвечанай памяці жонкі песняра Марыі МІЦКЕВІЧ.**

**Фота А. ФЕДАРЭНЧЫКА.**

# ЛАЎРЭАТУ АДЗІНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ

Трэба сказаць, што мінская школьніца Аня Шыбаева не толькі вельмі сціплы чалавек, але і надзвычай мужны. Яна з гонарам вытрымала ўсе выпрабаванні, якія зваліліся на яе кволыя дзіцячыя плечы ў час замежнага конкурсу. Італьянская публіка была ў захапленні ад юнай піяністкі. Газета «Іль Манферата» адзначала цікавае выкананне 11-гадовай Ані Шыбаевай, «якая з дакладнасцю падкрэсліла ўсе інтанацыі санаты соль мажор Скарлаці, сентыментальную раўнавагу накцюрна до дыез мінор Шапэна і ўсе нюансы «Арабескі» мі мажор Дэбюсі, пранікаючы ў вобразы, што адрозніваюць трох кампазітараў...» А газета «Атуаліта» ў заметцы пад загалоўкам «Цуд-дзіця з Савецкага Саюза» пісала, «што Аня Шыбаева стала сапраўдным адкрыццём конкурсу».

Ацэначная сума балаў (100/100 — за выключнае майстэрства), атрыманых Аняй за конкурсныя выступленні, адлюстроўвала таксама і аднадушную думку журы.

...Сёння ўжо ўсе хваляванні ззаду. З прызамі і падарункамі вярнулася Аня Шыбаева дамоў, у Мінск, адразу стаўшы славутасцю. Ходзіць у школу, рыхтуе новую праграму з твораў Гайдна, Чайкоўскага, Баха. А акрамя гэтага захапляецца яшчэ і кампазіцыяй. «Сапраўдны вундэркінд», — падумала я пра дзяўчынку, у глыбіні душы нават пашкадаваўшы яе. Вядомая справа — таленавітае дзіця: ні сяброў, ні забаў, ні свавольства — усё падпарадкавана музыцы.

Але яе мама, Людміла Васільеўна, абвергла гэта:

— Аня абсалютна без надрыву, я б нават сказала, неяк лёгка спраўляецца са шматлікімі ўрокамі ў ліцэі. За інструментам праседжвае гадзінамі, без усякага прымусу. Музыка для яе — усё.

Гэта і не дзіўна, зрэшты. Таму што вырасла дзяўчынка ў сям'і, дзе любяць і разумеюць музыку. Дзядуля, хаця і не прафесіянал, але тонкі цаніцель мастацтва, вакальных і харавых спеваў. Мама — прафесійны музыкант, выкладае ў інстытуце культуры. Старэйшы брат Сяргей іграе на гітары. Бацька ж Ані — інжынер — заўсёды самым актыўным чынам удзельнічаў у сумесных музіцыраваннях членаў сваёй сям'і.

У Італію Аня ездзіла з мамай і сваім педагогам Любоўю Бондаравай. Вядома ж, дарослыя вельмі хваляваліся. Узнікалі цяжкасці ў размовах з італьянцамі, якія ніводнага слова не разумелі па-руску, перакладчыка знайшлі з вялікай цяжкасцю. Аня ж была зусім спакойнай.

Педагог лічыць, што яе выхаванка бясконца адданая музыцы. І ўжо цяпер, хаця яшчэ і вучаніца, музыкант-прафесіянал. Напрыклад, у Ані ўжо былі і гастролі — у Пяцігорску, дзе дзяўчынка выступала разам з квартэтам «Гран» і мела вялікі поспех. «Часам здавалася, што сам юны Моцарт сеў за раяль і імправізуе, — напісаў у газеце пра гэтыя выступленні дзяўчынкі з Беларусі пяцігорскі меламан. — Гэта, безумоўна, шматабяцаючы талент. У свае юныя гады дзяўчынка так непасрэдна і спакойна трымаецца на эстрадзе, нібы нарадзілася на гэтай сцэне».

Любімы кампазітар Ані — Бах, а сыграць яна марыць канцэрт Грыга.

На цудоўную і цярністую дарогу мастацтва ўступіла юная піяністка Аня Шыбаева. Усё яе жыццё падпарадкавана музыцы. І мы маем падставы чакаць, што сёняшняя вучаніца музычнага ліцэя, якая стала лаўрэатам у 11 год, яшчэ не адзін раз праславіць Беларусь.

# ЦІ БУДЗЕ МУЗЕЙ У СЛОНІМЕ?

Калекцыя прадметаў быту мінуўшчыны, паказаная Міхаілам Рылко ў Мінску на выстаўцы, прысвечанай 500-годдзю Францыска Скарыны, не мела сабе роўных і была адзначана дыпломам.

На першы погляд, сабраныя М. Рылко унікальныя рэчы не маюць сістэмы. Таму што Міхаіл Іванавіч шукае і знаходзіць гадзіннікі і музычныя інструменты, старажытны посуд і манеты, іконы і карціны, вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і самавары, хатнія рэчы і прафесіянальны інструмент майстроў. Але ў гэтай уяўнай бессістэмнасці крыецца глыбока прадуманая ідэя — паказаць бытавы пласт вякамі існуючай культуры жыхароў невялікага правінцыяльнага гарадка на захадзе рэспублікі.

А пачалося ўсё з журналістыкі. Дваццаць тры гады прапрацаваў Міхаіл Іванавіч карэспандэнтам радыё і ўласным карэспандэнтам «Гродненской правды». Пастаянныя паездкі па раёнах, наведванне вёсак і хутароў у «глыбінцы» дазволілі назіраць, як год за годам знікаюць з ужытку прадметы быту, што яшчэ ўчора былі такімі неабходнымі. І захацеў Міхаіл Іванавіч выратаваць і захаваць для нашчадкаў тое, што ацалела яшчэ на старых гарышчах, у куфэрках, каморах.

Асветнік па духу, Міхаіл Іванавіч не хоча, каб усё сабранае ім ляжала мёртвым грузам. Пасля выстаўкі ў Мінску і сустрэч з першым намеснікам міністра культуры БССР В. Гілепам, які пабываў у Міхаіла Іванавіча дома, нарадзілася ідэя стварыць у Слоніме музей — «Беларускае мястэчка».

У гарадку многія падтрымліваюць гэтую ідэю. Але практычных крокаў пакуль не робіцца. Зразумела, што сёння ў гарадскіх улад іншыя клопаты — як накарміць і апрануць гараджан. А заўтра? Заўтра можа скончыцца энергія энтузіястаў, якія стаміліся даказваць відавочнае. І разыдзецца сабраная калекцыя па іншых музеях рэспублікі, а яны праяўляюць да яе жывую зацікаўленасць. Хочацца верыць, што знойдзецца ў гарадскім кіраўніцтве Слоніма нераўнадушны чалавек, які зразумее не толькі прэстыжнасць стварэння музея-майстэрні, яго прамую выгаду, але зможа зразумець і сапраўдную каштоўнасць асветніцкай дзейнасці для духоўнай культуры народа.

Я. КАЗЮЛЯ.



НА ЗДЫМКУ: Міхаіл РЫЛКО за разборам новых знаходак.

## спорт

На мажорнай ноце завяршылі зімні сезон савецкія спартсмены. Уладзімір Смірноў з Алма-Аты і Алена Вяльбе з Магадана выйшлі пераможцамі па суме этапаў розыгрышу Кубка свету.

Нам жа вельмі прыемна адзначыць поспех нашага земляка канькабежца мінчаніна Ігара Жалязоўскага. Нядаўна ён чацвёрты раз стаў чэмпіёнам свету па спрынтарскім мнагабор'і. А цяпер дамогся перамогі і ў розыгрышы Кубка свету.

Зімнія віды спорту змянілі летнія. Самай значнай падзеяй тут стаў чэмпіянат свету ў Іспаніі ў закрытых памяшканнях. Найбольшую колькасць ачкоў і вышэйшых узнагарод заваявалі савецкія спартсмены. І тут гонар краіны ўдала абараняў Ігар Лапшын з Мінска. Яму не было роўных у трайным скачку.

Крыху раней завяршыўся міжнародны турнір па вольнай барацьбе на прызы славутага Аляксандра Мядзведзя. Нікому з замежных спартсменаў не ўдалося ў Мінску стаць пераможцам гэтых прэстыжных спаборніцтваў. Затое парадавалі гаспадары — беларускія барцы. Тры з іх сталі першымі: В. Аруджаў, С. Смаль і А. Гогаль.


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 433.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12